

# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

Максім Багдановіч (1891-1991)

№ 396 Сьнежань 1992
Год выд. XLI

BIELARUS / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Ass'n., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50



**ВІНШУЕМ ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ ДЫ ЖАДАЕМ ДОБРАГА ЗДАРОЎЯ І ЎСЯКАЕ ПАМЫСНАСЬЦІ Ў НОВЫМ 1993 ГОДЗЕ!**

**Рэдакцыя «Беларуса»**

***Слова да Чытачоў і Прыяцеляў***

## *З НОВЫМ ГОДАМ!*

*Зямля ў сваёй сонечнай арбіце завяршае яшчэ адзін круг, і цыкль жыцьця неўзабаве пачнецца нанава: будзе ізноў «вераб'інымі крокамі» даўжэць дзень, прадвяшчаючы вясну, будуць ізноў набухаць пупышкі на дрэвах і кустах, датрымваючы сваё абяцаньне пацешыць наш зрок і нюх зялёнай лістотай, прыемным водырам кветак. Недалёкі той час, калі мы яшчэ раз з асалодай і трывогай будзем думаць пра летнія падарожжы й сустрэчы з дарагімі нам людзьмі.*

*Шмат хто з нас чакае на шчасьлівую нагоду, каб упяршыню або яшчэ раз паехаць на Бацькаўшчыну, наталіць сасмаглую душу доўгачаканымі спатканьнямі й маляўнічымі краявідамі, замацавацца ў перакананьні, што свабода прыносіць з сабой больш спадзяваньняў, чым трывогі, больш поступу, чым разладу. Мы будзем і далей жыць дваістым жаданьнем: спазнаць новае, але адначасна захаваць і старое.*

*На газэце «Беларус», што дакумэнтавала падзеі старога году, зьявіцца новы год выданьня — 42-гі. Сорак адзін год беларускае грамадзтва ў вольным сьвеце падтрымвала «Беларуса», як публікацыю, што трымала ўвагу на змаганьні беларускага народу за дадзенае яму Богам права быць гаспадаром на сваёй зямлі ды жыць у згодзе са справядлівасьцяй, прыродай і сваімі суседзямі. Сёньня, калі гістарычным зьбегам абставінаў Беларусь дачакалася й дамаглася права будаваць самой сваё жацьцё, на кожным з нас ляжыць абавязак падтрымваць «Беларуса», каб праз яго мацавалася лучнасьць з Бацькаўшчынай.*

*Беларусь робіць першыя крокі выхаду ў заходні сьвет, у якім мы пражылі блізу паўстагодзьдзя і дзе мы можам шмат чым дапамагчы ёй. Беларуская дэмакратыя патрабуе нас, замежных беларусаў, у гэтым гістарычным мамэнце, хоча бачыць нас згуртаванымі міжсобку і ў лучнасьці з Радзімай. Найпэўнейшы спосаб забясьпечыць гэткую згуртаванасьць і лучнасьць — гэта падтрымаць грашыма і супрацоўніцтвам сваю газэту «Беларус», якая за прамінулыя чатыры дзесяцігодзьдзі вытрымала экзамен на вытрываласьць у сваім служэньні справе свабоды й незалежнасьці Беларусі. Ад кожнага з Вас упаасобку, паважаныя Чытачы, Супрацоўнікі й Ахвярадаўцы, залежыць, ці «Беларус» будзе выходзіць далей, каб выконваць ролю лучніка й стымулятара беларускага жыцьця.*

*У Амэрыцы ёсьць звычай прымаць напярэдадні Новага Году асабістыя пастановы. Няхай-жа аднэй з гэткіх Вашых пастановаў будзе гатовасьць да шчодрага грашовага падтрыманьня «Беларуса», гэта значыць справы свабоды й незалежнасьці Беларусі. Тады й Новы 1993 Год будзе годам зьбольшанага шансу беларускага нацыянальнага й дэмакратычнага адраджэньня, захаваньня і ўмацаваньня Роднага Слова, пагроза якому ў Беларусі яшчэ далёка ня мінула.*

*Як Зямля, пачынаючы свой новы круг, застаецца ў старой арбіце пад узьдзеяньнем прыцягальнай сілы Сонца, гэтак і кожны з нас няхай застанецца ў спрадвечнай арбіце Беларусі, успрыймаючы сваім сэрцам ейнае прывабліваe духовае сьвятло.*

*Дык з Новым Годам! З добрым здароўем і бадзёрым настроем! Зь верай у лепшую будучыню! З новымі нумарамі «Беларуса»! З новымі кантактамі аднаго з адным і ўсіх нас зь векапомнай Бацькаўшчынай.*

**Рэдакцыя й адміністрацыя газэты «Беларус»**

# КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным вернікам Беларускага Народу**

Дарагія Браты й Сёстры!

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!

Сьвяты дзень нараджэньня Хрыстовага весьціць нам і ўсяму сьвету аб прыйсьці Божага ратунку. Гэта ня толькі дзень нашае радасьці, веры й надзеі, але й роздуму над вартасьцяй нараджэньня Караля каралёў, Хто прынёс новую мараль жыцьця чалавеку і заклікаў яго да высокага духовага ўзроўню. Чалавек, незалежна ад таго, у якіх абставінах ён жыве — на свабодзе ён ці ў зьняволеньні — заўсёды прагне лепшага заўтра, моліцца за лепшую будучыню, за больш высакародны сьвет, каб ня было боязі перад зьдзекамі й пакутамі, каб заўсёды панавалі любоў, братэрства паміж людзьмі ў духу малітвы, якую ў дзень нараджэньня Хрыстовага сьпяваюць вернікі ў сваіх сьвятынях: «Слава Богу на вышынях, а на зямлі супакой паміж людзьмі добрае волі» (Лк. 2:14). Але перамога добра над злом і цемрай даецца людзям ня лёгка — чалавеку патрэбная вера й сіла духа. А калі ён пакутуе, патрэбнае міласэрдзе, спагада, дапамога — тое, што мы маем ад Госпада й Ратаўніка нашага Ісуса Хрыста. Сёньня мы бачым, як сіла зла, што манаю й подступам імкнулася завалодаць сьветам, сама сабой распалася. Былыя ўлады сьвядомыя таго, што іхнай хвальшывай бязбожніцкай ідэялёгіі настаў канец. Мы даведаемся ўсё больш і больш аб тым, як улада, што хвалілася перад сьветам сваёй справядлівасьцяй, у запраўднасьці нішчыла нявінных людзей фізычна й маральна.

Наш хрысьціянскі абавязак, дарагія мае, — стаяць у абароне правоў свайго народу, ягонае веры, мовы, культуры й маральных прынцыпаў, — ягонае духовасьці. У мінулым сталецьці Ф. Багушэвіч пісаў: «Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, ка ня ўмерлі». Родная мова жыцьцёва важная для народу, бо сваёй мовай чалавек можа найлепш выказаць сваю думку й разумець іншых. Яна яму неабходная, каб ён поўнасьцю мог сэрцам і душою ў малітвах сваіх злучыцца з Богам. У Сьв. Пісьме паказана важнасьць роднай мовы, каб поўнасьцю разумець слова Божае, там сказана: «І напоўніліся ўсе (апосталы) Духам Сьвятым і пачалі гаварыць іншымі мовамі, як той Дух даваў ім прамаўляць» (Дзеі 2:4). Далей напісана, што ўсе дзівавaліся і казалі адзін аднаму: «Ці-ж ня ўсе, што гавораць Галілеяне? Як-жа гэта мы чуем ад іх кожны сваю мову? Мы-ж родам з Парафі, Мідзіі, Еляму, Мэсапатаміі, Юдэі, Каппадокіі, Понту, Фрыгіі, Памфіліі, Егіпту, Лівіі, Кірэны, Рыму, Крыту й Арабіі, — але ўсе мы чуем, як яны гавораць нашымі мовамі пра вялікія цуды Божыя» (Дзеі 2:7-11). Гэта быў цуд учынены Духам Сьвятым, што кожны прысутны чуў слова Божае на сваёй роднай мове.

У друку падаецца пра факты выданьня багаведнай літаратуры ў Беларусі, але, на вялікі жаль гэта найбольш передрукі, і тыя толькі па-расейску. Беларускі Экзархат Маскоўскага Патрыярхату ня выдаў аніводнай багаведнай кнігі па-беларуску. Нават усе пэрыёдыкі выдаюцца па-расейску, за выняткам пары, выдаваных па-беларуску саматугам колькімі асобамі. Аніяк не дапускаюць нашую сьвятую мову беларускую ў Царкву.

Архіпастыр расейскае царквы, япіскап Тэафан пісаў у сваіх лістах (1882 г.): «Усе нашыя багаслужбовыя сьпевы павучальныя, высокаразумныя й цудоўныя. У іх уся багаведная навука, уся хрысьціянская мараль, і ўся пацеха... Хто ўважлівы да іх, той зможа абыйсьціся бязь ніякіх іншых навучальных кнігаў. А між тым, вялікая частка гэтых сьпеваў зусім незразумелая, і гэта пазбаўляе нашы царкоўныя кнігі паўнілі таго плоду, які яны маглі-б даць, гэта не дае ім поўнае магчымасьці служыць тым мэтам, для якіх яны прызначаны. І дзеля гэтага пераклад царкоўных багаслужбовых кніг на беларускую мову абавязкова патрэбны.

Трэба думаць, што сп. Ніл Гілевіч выказвае спадзяваньні шмат каго ў Беларусі, калі кажа: «Зразумела, што мы глядзім наперад і верым у скоры надыход часу, калі Божы храм і народ на Беларусі будуць гаварыць ня рознымі мовамі, а адною — моваю гэтай зямлі, калі адраджэньне веры Хрыстовай у душах чалавечых у поўнай меры будзе супадаць з адраджэньнем беларускай нацыянальнай і дзяржаўнай самастойнасьці, беларускай мовы й культуры».

Дарагія мае! Госпад і Ратаўнік наш Ісус Хрыстос зыйшоў зь неба дзеля нас, людзей, дзеля нашага ратунку. У сьвяты дзень нараджэньня Хрыстовага будзем прасіць Госпада нашага, каб Бэтлеемская зорка асьвятліла шлях нашаму народу да лепшай будучыні, і каб наш народ хваліў Яго сваёй роднай мовай. Няхай Ён пашле ўсім радасьць і няхай Божае дабраславеньне будзе са ўсімі Вамі. Амін.

Хрыстос нарадзіўся — Яго слаўце!

Каляды 1992 г.
Таронта, Канада

**Архіяпіскап Мікалай**
**Першы Ярарх БАПЦ**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПАСЕДЖАНЬНЕ РАДЫ БНР

28 лістапада ў Нью-Ёрку адбылося пашыранае паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР, на якім былі абмеркаваныя наступныя пытаньні: 1)сучаснае палажэньне на Беларусі, 2) стан Касы Рады БНР і 3) далейшая дзейнасьць Рады БНР.

З дакладаў і дыскусіяў па іх вынікла, што:

1. Палітычнае становішча на Беларусі застаецца складаным і небясьпечным для справы адбудовы беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці і нацыянальна-культурнага адраджэньня. Працэс распаду савецкай імпэрыі, як зьява, што пачалася знутра ў выніку заганнасьці самой камуністычнай сыстэмы, трывае далей, паглыбляючы цяпер, сьледам за палітычнай дэцэнтралізацыяй, эканамічны разлад. Эканамічны хаос і зьніжэньне агульнага ўзроўню жыцьця хаваюць у сабе асаблівую пагрозу парасткам беларускай дзяржаўнасьці і нацыянальнай культуры, бо ставяць на першае месца праблему матар'яльнага выжываньня, адцягваючы ўвагу ад маральнага й духовага заняпаду, спрычыненага атэізмам, русыфікацыяй і нацыянальным нігілізмам. Сучасны ўрад Беларусі, экс-камуністычная бальшыня ў Вярхоўным Савеце і шмат дзе афіцыйныя ўлады на мясцох, трымаючыся збанкрутаванае камуністычнае ідэялёгіі, не дацэньваюць важнасьць ідэі незалежнае беларускае дзяржавы, здушваюць дэмакратычную апазыцыю, якая намагаецца прысьпешыць пераход Рэспублікі да самастойнай палітыкі і перабудаваць эканоміку на прынцыпах вольнага рынку.

Рада БНР заклікае ўсіх сваіх сяброў і прыхільнікаў уважліва сачыць ход падзеяў на Беларусі, інфармаваць у краёх свайго пасяленьня адпаведныя дзяржаўныя дзейнікі пра Беларусь і ейныя праблемы, спрыяць выхаду ў сьвет беларускіх незалежных прадпрыймальнікаў, дапамагаць усімі магчымымі сродкамі адраджэньню беларускай культуры і нацыянальнай сьведамасьці.

Рада БНР уважае за сваё важнае заданьне як мага шырэй інфармаваць вонкавы сьвет пра чарнобыльскае няшчасьце, ад якога пакутуе ўся Беларусь, застаўшыся сам-насам са сваёй бядой, якую ёй спрычынілі іншыя.

2. Хоць стан Касы Рады БНР не дэфіцытны, як паведаміў пра гэта ў сваёй справаздачы Скарбнік сп. В. Кажан, пры сучасных ладна пабольшаных магчымасьцях нацыянальна-палітычнае й выдавецкае дзейнасьці, на якую ідуць сродкі зь дзяржаўнае Касы, Рада БНР чакае ўсякае магчымае грашовае дапамогі як ад сваіх сяброў, перш-наперш рэгулярнай уплатай складак, гэтак і ад шырэйшага грамадзтва, якое прыхільна ставіцца да ідэі незалежнай дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

3. Рада БНР будзе й надалей трымаць высока штандар вольнай дэмакратычнай Беларускай Дзяржавы, спрыяць таму, каб сучасныя дэмакратызацыйныя працэсы на Бацькаўшчыне пашыраліся й паглыбляліся, будзе зьвяртаць увагу сьвету на факты гвалтаваньня ўладамі ў Беларусі волі народу, які чакае на новае дэмакратычнае заканадаўства, што вызваліла-б творчую ініцыятыву кожнага грамадзяніна ўпаасобку і ўсяго грамадзтва ў цэлым.

Рада БНР будзе далей папаўняць свае рады самаахвярнымі сынамі й дочкамі Беларусі, працаўнікамі й працаўніцамі нацыянальнага адраджэньня, каб папалымнеў сьветач Свабоды, запалены векапомным Актам 25 сакавіка 1918 году, каб вечна жыў ідэал Беларускай Народнай Рэспублікі.

## ПЕРШЫ СХОД БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

У Менску 19-20 сьнежня адбудзецца, скліканы Згуртаваньнем Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» Першы Сход беларусаў блізкага замежжа (былога СССР і Беласточчыны). «Бацькаўшчына» ў сваім звароце выказала спадзяваньне, што Сход станецца «значнай падзеяй напярэдадні скліканьня Форуму беларусаў сьвету летам будучага году» (4-7 ліпеня).

На Сходзе, як паведаміла «Бацькаўшчына», «будуць узьняты такія праблемы, як набыцьцё замежнымі беларусамі грамадзянства Рэспублікі Беларусь, а таксама маёмасьці, праблема вяртаньня беларускіх афіцэраў на Бацькаўшчыну, стварэньне ў Менску Беларускага дому, што мог-бы стаць родным для беларускага замежжа» і іншыя пытаньні.

Галоўная ўправа БАЗА і газэта «Беларус» выслалі прывітаньні Першаму Сходу беларусаў блізкага замежжа, пажадаўшы ягоным удзельнікам усякае памысьнасьці ў працы.

**Леанід Пранчак**

## БЕЛАРУСЫ АМЭРЫКІ

*Бог ніколі наш край не пакіне,*
*Нашу еднасьць нічым не парушыць.*
*У далёкай самотнай чужыне*
*Зьбераглі Вы нязгасныя душы.*
*Зьбераглі, як сьвятыню, Айчыну,*
*Каб ніколі яе не забыцца,*
*Каб на родную нашу краіну*
*У трывожным расстаньні маліцца.*

*Прыпеў:* *Вы ў Радзіму забраную верылі,*
*Вы далёкай радзіме — свае!*
*Беларусы Амэрыкі,*
*Беларусы Амэрыкі, —*
*Беларусь не памерла, —*
*Жыве!*

*У царкву да Сьвятой Ефрасіньні*
*У самоце прыходжу заўсёды.*
*Да радзімы любоў не астыне,*
*Не астудзяць любоў маю годы.*
*Бо ня маю нічога на сьвеце*
*Даражэй, чым бацькоўскія гоні.*
*Беларусь мая — зорка ў сусьвеце,*
*Што ніколі ня згасьне ў сутоньні.*

*На гэтыя словы Леаніда Пранчака кампазытар Зьміцер Яўтуховіч напісаў музыку. Упяршыню песьня прагучала ў вакананьні аўтара музыкі 4 кастрычніка 1992 г. у Саўт-Рывэры. На канцэрце выступаў таксама паэт П. Пранчак.*




*Беларускія каталікі ля ўваходу ў будынак, дзе месьціцца Міністэрства культуры Беларусі ў верасьні 1992 году. Надпісы на плякатах: «Касьцёл св. Тройцы на Залатой Горцы Беларусам-каталікам гор. Менску» (зьлева) і «Міністр культуры Вайтовіч, вярніце храм беларусам-католікам». У часе, калі рабіўся гэты здымак, дэманстранты супольна ўголас гаварылі малітву па-беларуску «Ойча наш». Фота Янкі Запрудніка.*

## БЕЛАРУСЬ — ВАТЫКАН — ПОЛЬШЧА

**Дыпляматыя і далей...**

Менск і Ватыкан падпісалі 11 лістапада сёлета пратакол аб устанаўленьні дыпляматычных сувязяў. Пасланец Папы Рымскага, нунцый у Максве, Архіепіскап Францыска Колясуона, камэнтуючы падпісаны ім і беларускім міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам пратакол, сказаў, між іншага, што «Ватыкан мае намер працягваць ужыцьцяўляць распрацаваную два гады таму спэцыяльную праграму дапамогі беларускім дзецям, якія жывуць у рэгіёнах, што найбольш пацярпелі ў выніку катастрофы ў Чарнобылі». (Белінформ-ТАСС, НРС 13/11).

Ватыканская газэта L'Osservatore Romano ў сваім англамоўным ваданьні (№ 46, 18.XI), паведаміўшы коратка пра падпісаньне пагадненьня з Рэспублікай Беларусь, зьмясьціла вялікі артыкул пад заг. «Гісторыя хрысьціянства ў Беларусі». Артыкул не падпісаны, але, мяркуючы паводля правапісу й формы некаторых геаграфічных назоваў і прозвішчаў, пісаў яго паляк.

У артыкуле двойчы называецца лік «амаль 2.000.000 каталікоў» у Беларусі з зазначэньнем, што яны «сканцэнтраваныя галоўна ў рэгіёне, які належаў да Польшчы». Пра нацыянальнасьць гэтых каталікоў нічога не сказана, і гэтае прамоўчваньне трэба ўспрыймаць, як нежаданьне Ватыкану прызнаць наяўнасьць на Беларусі каталікоў беларускае нацыянальнасьці. З другога боку, трэба мець на ўвазе частыя заявы ў польскім сьвецкім і касьцельным друку аб тым, што на Беларусі жыве два мільёны палякоў. Дэмаграфічна-палітычная арытмэтыка Ватыкану й Варшавы тут простая: паводля гэтае экспансіянісцкае калькуляцыі, два мільёны каталікоў на Беларусі (калі іх запраўды гэтулькі налічаваецца) — гэта «палякі».

Урад Беларусі стаіць цяпер перад далікатным і важным заданьнем: як выкарыстаць свае добрыя дачыненьні з Польшчай і нова ўстаноўленыя сувязі з Ватыканам, каб чарнобыль радяцыйны не абярнуўся для беларускіх дзяцей пад узьдзеяньнем польскіх ксяндзоў і манашак чарнобылем культурна-духовым. Мы ўжо мелі такое дазнаньне з Ватыканам і Польшчай у мінулых стагодзьдзях нашае гісторыі.

**Аркадзь Будзіч**

### КАТАЛІЦКІЯ ПАРАФІІ РАСТУЦЬ

«За апошнія гады (у Беларусі) рэзка ўзрасла колькасьць каталіцкіх прыходаў. Калі ў 1988 годзе іх было 121, то на першага верасьня гэтага году — ужо 288», сказаў старшыня Камісіі па справах рэлігій пры ўрадзе Беларусі Аляксей Жыльскі газэце «Голас Радзімы» (19/11/92). Паводле Жыльскага, «На сёньня з 130 ксяндзоў у касьцёлах рэспублікі толькі 48 мясцовыя. Усе-ж астатнія — з Польшчы».

## *BELARUS — BELARUSAN!*

Аўстралійскі часапіс, які абслугоўвае журналістаў і рэдактароў, Freedom Lifeline (May-June 1992), спаслаўшыся на матар'ял Беларуска-Амэрыканскае Інфармацыйнае Службы В. Мельяновіча, заклікаў рэдактароў пісаць прыметнік «беларускі» па-ангельску — Belarusan. Гэтым найразумнейшым варыянтам карыстаецца ўжо шмат хто. Карыстаецца ім, прыкладам, Мітрапаліт БАПЦ Мікалай. Галоўная ўправа БАЗА пастанавіла зьмяніць свой назоў (фармальна гэта будзе праведзена на чарговым кангрэсе БАЗА ў травені 1993 году) з Byelorussian-American Association на Belarusan American Association. Прыметнік Belarusan прынялі ўжо шмат якія акадэмічныя выдавецтвы, а сярод іх Кембрыджскага і Калюмбійскага ўнівэрсытэтаў.

Галоўны аргумэнт у карысьць Belarusan (бязь літары «і») — той; што форма гэтая ня зблытвае нас у сьведамасьці слаба паінфармаванага чужынца з расейцамі. А блытаніну гэткую найбольш уводзіць якраз літара «і».

Ня мае пад сабой грунту аргумэнт некаторых абаронцаў «і» у ангельскім прыметніку «беларускі», якія цьвердзяць, што ў слове «Беларусь» «с» гучыць мякка. Дык-жа перакладаецца ў дадзеным выпадку не «Беларусь», а «беларускі», у якім мяккага гуку няма. Устаўляць зьмякчальнае «і» у прыметнік Belarusan — гэта і нелягічна, і непалітычна.

Дарэчы, канчатак -an у ангельскай мове маюць гэткія прыметнікі, як German, Catalan, Hoduran і іншыя. Belarusan па-ангельску гучыць нармальна й гарманічна. Успрыймаць нармальнасьць гэтага гучаньня некаторым з нас яшчэ перашкаджае, відаць, старая прывычка, да -russian. Гэтую псыхалягічную інэрцыю трэба перамагчы, каб прыбраць з дарогі лішні тэрміналягічны бар'ер, які перашкаджае выхаду Беларусі ў англамоўны сьвет.

**Янка Запруднік**

# НАВЕДАНЬНЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ-БЕЛАРУСІ

*(Працяг з папярэдняга нумару)*

**У Беларускім Таварыстве Сьляпых**

Пад вечар таго-ж самага дня мы наведалі музэй Беларускага Таварыства Сьляпых. Пры ўваходзе нас спаткалі трое дзяўчат у нацыянальных строях, прывіталі нас з хлебам і сольлю. Сяргей Карніловіч ад групы падзякаваў. У музэі вітаў нас старшыня таварыства Анатоль Нятылькін, стараючыся гаварыць па-беларуску. Ён паведаміў, што ў Рэспубліцы налічваецца, прыблізна, 20 тысячаў сьляпых, што бальшыня зь іх страціла зрок у часе вайны, шмат хто паў на духу, кінуўся ў роспач, людзі канчалі жыцьцё самагубствам. Таму давялося стварыць таварыства, каб памагаць сьляпым, рэгабілітаваць іх, вучачы працаваць у майстэрнях, на фабрыках. Сёньня працаўладкована каля 6-х тысячаў чалавек.



*Сяргей Карніловіч дзякуе за гасьцінную сустрэчу. Фота Кастуся Калошы.*

Загадчыца музэю Ала Іваненка паказала нам рэчы, якія вырабляюцца сьляпымі. Тое, што мы пабачылі, моцна зьдзівіла нас: цяжка было даць веры, што людзі бяз зроку могуць вырабляць такія рэчы. У тым-жа будынку прафэсійныя музыканты й сьпевакі, сярод якіх былі і сьляпыя, далі нам канцэрт.

Цікава было пабачыць бібліятэку таварыства сьляпых: кніжкі, інструмэнты. Вялікая праблема для таварыства ў тым, што ў Беларусі няма друкарні для сьляпых, а кніжкі друкаюцца ў Пецярбургу па-расейску.

Візыт закончыўся пранцьцём у сталоўцы таварыства. На прыняцьці прамаўлялі Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч, Анатоль Лук'янчык, Оля Лукашэвіч. Прамоўцы адзначылі добрыя дасягненьні ў рэгабілітацыі сьляпых і падкрэсьлілі, што дзяржаўныя ўлады павінны былі-б больш памагаць у гэтай справе. Госьці прасьпявалі некалькі беларускіх песьняў. Усю праграму вёў сп. Нятылькін, які сам страціў зрок у часе вайны.

Госьці падзякавалі кіраўніцтву і ўдзельнікам канцэрту за добрае прыняцьце, зложылі ахвяру на таварыства сьляпых: А. Лук'янчык — 1000 даляраў, а рэшта — 500. Сустрэча закончылася супольным адсьпяваньнем «Люблю наш край». Пра спатканьне падалі газэты, яго пабачылі таксама па ўсёй Беларусі на тэлевізіі.

**Курапаты й Хатынь**

У сераду 29 ліпеня мы паехалі ў Курапаты з праваднікoм Алесем Лукашуком, які добрай беларускай мовай расказаў нам пра тысячы людзей, выгубленых бальшавікамі — злачынства, што яшчэ поўнасьцяй не дасьледаванае. У Курапатах пабачылі мы вялікі крыж з напісам «Пакутнікам Беларусі». Пасьля зложаньня кветак мы адслужылі паніхіду: а. Янка Шыкалюк з Рокфарду, штат Іліной, і царкоўны хор з Кліўленду. Мы наведалі магілкі, якія можна было пазнаць толькі па ўпадзінах у зямлі, парослых лесам, і гэта рабіла цяжкое ўражаньне. Цяперашні выгляд курапацкага месца прымітыўны — крыж і дошка. Пажадана было-б зрабіць добры даезд сюды з галоўнай дарогі, што праходзіць побач, пабудаваць нейкі дом ці капліцу, дзе можна было-б адпраўляць малітвы, павесіць дошкі зь інфармацыяй пра пакутнікаў, як гэта зроблена ў Хатыні. Каб наведнікі ведалі, што гэта за месца — Курапаты.



*Пасьля паніхіды ля Курапацкага крыжа.*

Далейшым аб'ектам нашага наведаньня была Хатынь, дзе ў часе вайны немцы спалілі цэлую вёску й вынішчылі ўсіх ейных жыхароў за выняткам аднаго дзядзькі. Гэта ўжо вельмі ведамае месца, але на многіх з нас, што пабачылі яго ўпяршыню, яно навеяла сум, нагадваючы пра ваенную трагедыю нашага народу.

**У амэрыканскім пасольстве**

Шэсьць асобаў нашае групы наведалі пасольства ЗША ў Менску. Пасол Дэвід Сўорц у гэтым часе быў у Вашынгтоне. Прыняла нас ягоная заступніца сп-ня Дэзірэ Мілікан, якая займаецца палітычнымі й эканамічнымі справамі. Ад групы К. Калоша паінфармаваў яе, што нас прыехала 34 асобы, усе грамадзяне ЗША беларускага паходжаньня, зь якіх аднак толькі двух нарадзілася ў Амэрыцы ды што бальшыня з нас упяршыню прыехала на Бацькаўшчыну. Сп-ні Мілікан была выказаная просьба, каб Злучаныя Штаты памаглі Беларусі хутчэй перайсьці да дэмакратыі, наладзіць добрую лучнасьць і супрацоўніцтва, а таксама ў меру магчымасьці памагчы эканамічна, паколькі сёлета ў Беларусі вялікая засуха.

Сп-ня Мілікан падзякавала за візыт і сказала, што неўзабаве амэрыканскае пасольства ў Менску будзе поўнасьцяй працаваць і ня трэба будзе езьдзіць у Маскву па візы, а таксама паведаміла, што хутка ў Вашынгтоне адчыніцца беларускае пасольства.

Яна адказала на пытаньні С. Карніловіча й А. Лук'янчыка адносна супольных амэрыканска-беларускіх прадпрыемстваў, дала патрэбную інфармацыю. Перад разьвітаньнем зрабілі супольную фатаграфію, перадалі ў бібліятэку пасольства выдадзеную Кліўлендзкім Унівэрсытэтам кніжку аўтарства Вітаўта Кіпеля пра беларускую грамаду ў Кліўлендзе. Сп-ня Мілікан добра валодае расейскай мовай, а маладыя мясцовыя працаўніцы пасольства прыгожа гаварылі па-беларуску.

Сустрэча з намі ў пісьменьніцкім Доме прайшла ў вельмі ўрачыстай атмасфэры ў вялікай канцэртнай залі, дзе праходзіў арганізацыйны сход па скліканьні сусьветнага зьезду беларусаў. На сход прыйшлі прадстаўнікі ўраду: заступнік Прэм'ера Кебіча сп. М. Дзямчук, Міністар замежных справаў сп. П. Краўчанка, Пасол Беларусі ў АНН сп. Г. Бураўкін, прадстаўнікі ад розных партыяў: Дэмакратычнага Руху, БНФ, нацыянал-дэмакратаў, Рэспубліканскага Аб'еднаньня, Беларускай Сялянскай Партыі, Таварыства Беларускай Мовы, Згуртаваньня Беларускіх Вайскоўцаў. Адкрыў сход старшыня Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» сп. Яўген Лецка, які папрасіў гасьцей паясьніць, штó яны за група і як прыехалі. Кастусь Калоша коратка расказаў пра эміграцыю, пра эканамічны і грамадзка-палітычны бакі жыцьця: пра арганізацыі, цэрквы, мастацкія гурткі, захоўваньне роднае мовы, сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, кантакты зь мясцовымі й дзяржаўнымі органамі ўлады заходніх краінаў. Асноўнай мэтай эміграцыі было, сказаў ён, пераканаць урады вольнага сьвету, што Беларусь мусіць быць вольнай і незалежнай краінай. Паколькі-ж цяпер Беларусь сталася сувэрэннай дзяржавай і лёгка можна дастаць дазвол на ўезд, каб сустрэцца са сваякамі, дык 34 асобы з Амэрыкі пастанавілі пабачыць Бацькаўшчыну, паглядзець на ейныя гарады і краявіды.

Міністар Пётра Краўчанка паінфармаваў пра апошнія падзеі, зьвязаныя з выхадам Беларусі на міжнародную арэну, гаварыў пра намер склікаць зьезд беларусаў сьвету ў Менску ў 1993 годзе. Прамаўлялі таксама прадстаўнікі розных партыяў. Абралі арганізацыйны камітэт для правядзеньня сусьветнага зьезду беларусаў. У камітэт увайшлі: Васіль Быкаў, Пётра Краўчанка і па адным прадстаўніку ад партыяў.



*Перад будынкам пасольства: (у першым радзе) Дэзірэ Мілікан і Лена Лук'янчык; за імі (зьлева): К. Калоша, С. Карніловіч, А. Лук'янчык, Л. Казыра, Я. Лецка, Фота Д. Лупача.*

Пасьля нарадаў адбыўся канцэрт. Першым выступіў жаночы хор з Кліўленду. Пад песьню «Люблю наш край» і акампанімэнт Фёдара Паўлаўца кліўлендзкія харысткі ў нацыянальных строях выйшлі на сцэну і Оля Лукашэвіч ад імя хору прывітала ўсіх прысутных. Перад выступам К. Калоша абвесьціў, што хор называецца «Васілёк» ды што гэта толькі палова яго; расказаў, у якіх умовах хор праводзіў сваю працу, які ў яго рэпэртуар. Харысткі добра выканалі «Я ад вас далёка», «Поле ты, поле», «Вечарком за рэчкаю» і «Роднае слова».

Далей у канцэрце выдатна выступілі менскія прафэсійныя артысты, якіх было прыемна глядзець і слухаць. Ці ў аднаго з нас паказаліся сьлёзы расчуленьня й радасьці.

У часе добра падрыхтаванага прыняцьця ўздымаліся тосты за адраджэньне Беларусі, за супрацоўніцтва з эміграцыяй. Ад нас прамаўлялі Сяргей Карніловіч і Оля Лукашэвіч. Сьпявалі супольна беларускія песьні, танцавалі пад акардыён.

Сустрэча ў Доме літаратараў, дзе мы мелі магчымасьць пазнаёміцца з многімі пісьменьнікамі й артыстамі, была для нас вельмі цікавая й прыемная.

*(Працяг у наступным нумары)*

**Кастусь Калоша**

## КАБ УВЕКАВЕЧЫЦЬ ІМЯ

**«Ганаровая сьцяна амэрыканскіх імігрантаў»**

У ньюёркскім Музэі Іміграцыі на Эліскім абтоку вы можаце навечна ўпісаць за сто даляраў сваё або вашых сваякоў імя (форма падарунку) на «Ганаровай Сьцяне Амэрыканскіх Імігрантаў». «Ганаровая сьцяна» ўжо славіцца, як найдаўжэйшы ў сьвеце сьпіс прозьвішчаў. Але на сьцяне гэтай знойдзецца яшчэ месца і на вашае. Заяўкі і грошы (неападаткоўваныя!) трэба слаць на адрас: The Statue of Liberty-Ellis Island Foundation, Inc., 52 Vanderbilt Avenue, NY, NY 10017-3808. Info: (212) 883-1986

БЕЛАРУС № 396 Сьнежань 1992 г.

# «БЕЛАРУСЫ АДЗНАЧАЮЦЦА РЭАЛІЗМАМ»

## БЭЛЬГІЙЦЫ ПРА ЭКАНОМІКУ БЕЛАРУСІ

**Бэльгійская эканамічная й фінансавая газэта L'Echo (у нумарох за 4 і 9 лістапада) апублікавала два артыкулы пра эканамічныя рэформы на Беларусі. Рэформы гэтыя, піша газэта, базуючыся на выказваньнях заступніка міністра фінансаў, Мікалая Лісая, улічваюць своеасаблівасьць палажэньня Беларусі: у адваротнасьць ад канфліктнага характару ўкраінска-расейскіх адносінаў Беларусь у сваёй стратэгіі намагаецца ўлічваць наяўнасьць вялікага суседа, трымаючы зь ім добрыя дачыненьні. У нашых рэформах, сказаў Лісай бэльгійскай газэце, мы мусім улічваць спэцыфіку нашага палажэньня.** Гэта перш-наперш цяжкая спадчына Чарнобыля. Тым ня менш, рэформы паступова ідуць наперад. На восеньскай сэсіі Парлямэнту, сказаў віцэ-міністар, будзе прыняты закон аб прыватызацыі, якая ў галіне прамысловасьці будзе праводзіцца падобна, як у Расеі або Чэхаславаччыне. Тымчасам Міжнародны Валютны Фонд разглядае заяву Беларусі на членства ў гэтай міжнароднай арганізацыі і па шмат якіх пунктах ужо дасягнута згода.

Добрыя дачыненьні паміж Менскам і Масквой не павінны інтэрпрэтавацца, як жаданьне Беларусі заставацца ў фарватэры Расеі — зазначыў М. Лісай. «Беларусь, — сказаў ён, — поўнасьцяй сувэрэнная й незалежная і хоча далей ісьці гэтым шляхам». Беларуская ўлада, піша бэльгійская газэта, мае намер працягваць перабудову, каб ператварыць сваю экономіку зь вялікага спажыўца сыравіны ў вытворцу тавараў з дададзенай навуковай вартасьцяй.

**«Козыры Беларусі»**

У другім артыкуле газэты «Рэха», пад заг. «Беларусі хапае козыраў», бэльгійскі адміністратар Сусьветнага Банку, Бэрнар Снуа, які наведаў нядаўна Беларусь, праводзіць паралель паміж Беларусяй і Бэльгіяй. Як і бэльгійцы, піша сп. Снуа, беларусы адзначаюцца рэалізмам, практычным бесканфліктным падыходам: пра іх кажуць, што яны «найбольш разважлівыя са славянаў». Бэльгійскі фінансіст піша пра вялікія страты Беларусі ў Другой сусьветнай вайне і ў выніку чарнобыльскае ядзернае катастрофы, азначае вялікую сыравінную залежнасьць Беларусі ад Расеі, адкуль завозіцца 80 працэнтаў сыравіны і куды ідзе 70 працэнтаў беларускага экспарту. Аднак, піша далей Бэрнар Снуа, Беларусь мае і козыры. Гэта ейнае геаграфічнае палажэньне, блізіня да заходніх рынкаў, дысцыплінаваная і высокакваліфікаваная тэхнічна працоўная сіла з даволі нізкай заработнай платай ды палітычная стабільнасьць і адсутнасьць этнічных канфліктаў.

«Стратэгія Сусьветнага Банку, — піша Снуа, — памагчы тэхнічна беларускім уладам у іхных рэформах і даць пазыкі на фінансаваньне крытычна важнага імпарту».

Пішучы пра вялікія перашкоды, перад якімі апынуліся рэспублікі былога Савецкага Саюзу, Бэрнар Снуа кажа, **што «цяжка быць аптымістам, гледзячы на вялізарныя цяжкасьці, якія перажывае Расея, стабілізуючы сваю экономіку».** Але з гледзішча на далейшую пэрспэктыву аўтар артыкулу выказаў перакананьне, што Беларусь, як і Казахстан (які сп. Снуа наведаў раней), мае вялікі патэнцыял для праведзеньня рэформаў. Бэрнар Снуа заклікаў сусьветную грамадзкасьць і міжнародныя фінансавыя інстытуцыі дапамагчы незалежным рэспублікам былога СССР стабілізаваць іхную эканоміку.

**Янка Жучка**

---

### НЕ БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ, А ДЭРУСЫФІКАЦЫЯ!

Часамі адно слова кажа больш, як цэлая прамова або артыкул. Гэткім адным словам пакарыстаўся Старшыня ВС Беларусі Станіслаў Шушкевіч, адказваючы на пытаньні падпішчыкаў «Народнай Газэты». Пра ўрадавую праграму навучаньня беларускай мовы ў беларускім войску Шушкевіч сказаў, што гэта не беларусізацыя, а дэрусыфікацыя. (FBIS 18/XI)

Гэтым дакладным, правільным і справядлівым тэрмінам — ДЭРУСЫФІКАЦЫЯ — і трэба было-б карыстацца там, дзе звычайна ўжываецца слова беларусізацыя.

---

### ДЗЕЦІ-АХВЯРЫ ЧАРНОБЫЛЯ Ў ЛЁНДАНЕ Ў АНТАРЫЁ

29-га кастрычніка разьвіталіся мы зь дзяцьмі зь Беларусі. Прыехалі яны на пачатку верасьня — бледныя, худыя, уваччу нейкі страх ці няпэўнасьць перад няведамым. Мясцовыя дзеці спаткалі іх з кветкамі й падарункамі. Хацелі нешта сказаць, ды слоў не хапала. Настаўніца Валянціна Вінакурава, якая добра валодае ангельскай мовай, ды мы з жонкай Людмілай старэмся перакладаць. Цяжка паразумецца. Спаткаліся два розныя сьветы.

Які-ж кантраст быў пры разьвітаньні! Цяжка было пазнаць, хто беларус, а хто канадыец. Вясёлыя тварыкі беларускіх дзетак зьліліся ў адно з канадыйскімі дзяцьмі. Адны падвучыліся гаварыць па-ангельску, а другія па-беларуску. Адзетыя яны былі ўсе ў новае адзеньне. Я быў прыемна зьдзіўлены гасьціннасьцю лёнданскіх гаспадароў.

Кожнае дзіцё было нагружана падарункамі для яго й ягонае сям'і. Разьвітаньне было вельмі чульлівае. Здавалася на мамэнт, што гэта родныя дзеці пакідаюць хату на далёкае падарожжа.

Шчыры дзякуй усім тым, што дапамаглі фінансава пакрыць кошт падарожжа, усім тым, хто спрычыніўся да стварэньня цёплай сямейнай атмасфэры. Асаблівы дзякуй сп-тву Міколу й Гэлене Шустам, якія прынялі ўсіх у сваім летнім доме над возерам Гурон і пачаставалі дзяцей беларускімі прысмакамі.

**Б. Рагуля**

---

### СЛАВА БЕЛАРУСКАЙ НАВУКІ

**У бэльгійскім гандлёвым выданьні пра Беларусь**

Бэльгійскі двумесячнік Information du Commerce Extérieur (№ 17), зазначыўшы, што бальшыня эўрапейцаў мала ведае пра Беларусь, незважаючы на тое, што край гэты знаходзіцца ў геаграфічным цэнтры Эўропы, падаў асноўныя факты пра прыродныя багацьці Беларусі (торф, вапна, гліна, фасфарыты, лясы), беларускую прамысловасьць, шляхі транспарту, сельскую гаспадарку, заканадаўства па замежных інвэстыцыях, навучальныя ўстановы і навуковыя кадры. «Між іншага, — зазначае часапіс, — беларускія навуковыя дасьледаваньні ў галіне матэматыкі, фізікі, хіміі, біялёгіі, ядзернай фізікі ды энэргетыкі шырака ведамыя».

**Я. Ж.**

---

### МАШТАБ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАРУСІ, УКРАІНЕ І РАСЕІ

**4:1, 17:1, 150:1**

Удзельнік «завочнага круглага стала» расейскай газэты «Голос Родины» (№ 38/92) Васіль Несьцярэнка, дырэктар Інстытуту радыяцыйнай бясьпекі, падаў красамоўна трагічнае вамярэньне чарнобыльскай бяды на Беларусі. Ён сказаў:

«Ад забруджаньня радыянуклідамі пацярпела каля 23 працэнтаў усёй тэрыторыі Беларусі, з насельніцтвам 2 мільёны 200 тысяч чалавек. (...) Для нас Чарнобыль азначае страту 20 нацыянальных даходаў, 200 міліярдаў рублёў. **У Беларусі трэба дапамагаць кожнаму чацьвертаму, тымчасам як на Ўкраіне 16 чалавек павінны працаваць, каб памагчы сямнаццатаму. У Расеі 150 чалавек памагаюць аднаму».**

### *КДБ ПАД ВЯРХОЎНЫМ САВЕТАМ*

Пастановаю 12 лістапада ВС Беларусі падпарадкаваў сабе Камітэт Дзяржаўнай Бясьпекі (КДБ), прызначыўшы адпаведную камісію для нагляду. У прамежках паміж сэсіямі ВС кантроль над КДБ будзе прэрэгатывай Прэзыдыюму ВС.

Старшыня КДБ ген. Эдуард Шыркоўскі выказаў задаваленьне з прыняцтай пастановы. (FBIS 16/XI)

### *«ВАЦЛАЎ ІВАНОЎСКІ І АДРАДЖЭНЬНЕ БЕЛАРУСІ»*

Пад гэтым загалоўкам выйшла сёлета ў выдавецтве Польскай Акадэміі Навук, па-польску, кніга ведамага беларускага гісторыка Юрыя Туронка.

Вацлаў Іваноўскі (1880-1943) быў пачынальнікам і дзеячом беларускага нацыянальнага руху. Біяграфія і трагічная сьмерць Іваноўскага ў акупаваным немцамі Менску — гэта біяграфія і драма гэтага руху, актывісты якога часта апынаціся на ідэйным раздарожжы паміж Расеяй і Польшчай.

У выніку шматгадовае крапатлівае працы др. Туронак сабраў багаты матар'ял ня толькі пра самога Іваноўскага, але й пра эпоху, у якой Іваноўскаму давялося жыць і працаваць. У выніку атрымалася багатая панарама культурна-грамадзкага і нацыянальна-палітычнага жыцьця ў Беларусі, на фоне якога ўпяршыню ўсебакова і шырока паказаная выдатная постаць гэроя кнігі.

Праца др. Туронка, як і ўсе ягоныя ранейшыя шматлікія публікацыі, грунтоўна ўдакумэнтаваная. Вартасная яна таксама біяграфічнымі даведкамі пра шэраг іншых людзей гістарычнай арэны. Дадзены паказьнік прозвішчаў. Кнігу ўзбагачаюць фатаграфіі як самога Іваноўскага, гэтак і асобаў, зь якімі яму даводзілася мець дачыненьне.

---

*У рэдакцыю газэты «Беларус»*

# *КОМПЛЕКС «ГАРЫСЛАВА»*

Мы ўдзячныя «Беларусу» за тое, што не аднойчы зьмяшчаў матэрыялы нашых сяброў з Амэрыкі й Канады, якія наведалі старажытнае Заслаўе і пісалі аб гэтым, а таксама пра Гісторыка-культурны комплекс «Гарыслава».

Мы, заснавальнікі гэтага Комплексу, Тацьцяна Гаранская і Віктар Маркавец, хацелі-б удакладніць некаторыя мамэнты, якія зьяўляюцца прынцыповымі ў справе арганізацыі яго забудовы.

Маецца на ўвазе наступнае:

— Упяршыню склаліся ўмовы для стварэньня па-за дзяржаўнымі структурамі нацыянальнага гісторыка-культурнага асяродка.

— Спраектаваны Комплекс разьмесьціцца ў прыгараднай зоне Менска, што выгодна ў камунікацыйным сэнсе — у месцы, зьвязаным з вызначальнымі старонкамі гісторыі Беларусі.

— Створваны асяродак мае вельмі важнае значэньне для адраджэньня на Бацькаўшчыне нацыянальнай сьвядомасьці і культуры, якая пасьля сямідзесяцігадовага руйнаваньня патрабуе надзвычайнай увагі і клопатных адносінаў.

— Заснавальнікі Комплекса «Гарыслава» разьлічваюць, што ён стане тым месцам, дзе ў гарманічнай атмасфэры нацыянальнага асяродзьдзя змогуць пранікаці гістарычнымі й культурнымі традыцыямі сваёй Бацькаўшчыны беларускія эміграны: іх дзеці і ўнукі — наступнікі тых беларусаў, якія прайшлі цяжкія выпрабаваньні войнаў, пераваротаў, захаваўшы любоў да Беларусі, нацыянальную сьвядомасьць і чалавечую годнасьць.

Не хацелі-б мы, каб праз недахоп інфармацыі складалася ўражаньне пра нас, як пра нейкіх жабракоў, якія разьлічваюць у справе стварэньня Комплекса «Гарыслава» на міласэрнасьць сваіх суайчыньнікаў. Мы прапануем выключна ўзаемна-выгоднае супрацоўніцтва.

Сродкі, неабходныя на стварэньне Комплекса, раскладаюцца на роўныя часткі, уладальнікамі якіх могуць быць як прыватныя асобы, так і групы асобаў, а таксама ўстановы, таварыствы, фірмы. Службы Комплекса «Гарыслава» (гатэль, рэстаран і інш.) разьлічаныя на адначасны прыём і абслугу 30 асобаў на працягу 12 дзён у год, што й гарантуецца надалей бясплатна ўладальніку адной долевай часткі, якая складае кошт 21 тысячу даляраў.

Існуе і другі варыянт фінансавага ўкладаньня і адпаведных маёмасных правоў у Комплексе «Гарыслава»: жадаючыя могуць набыць адну частку ад долі, што складае 700 даляраў, і мець адно месца на працягу 12 дзён у год, або — 2-3 і болей (да 30) частак з аналягічнымі правамі ўладальніка ўсёй долі. Сваё месца ў Комплексе можна прадаць або перадаць свайму сваяку, сябру ці знаёмаму. Умова толькі адна — каб гэта быў прадстаўнік беларускай эміграцыі з прыхільным стаўленьнем да беларушчыны.

Папярэднія разьлікі паказваюць, што ўжо праз год пасьля ўвядзеньня ў дзеяньне заплянаванага Комплекса, нашым кампаньёнам кампэнсуюцца затраты, і ў далейшым яны будуць мець чысты прыбытак. Зацікаўленым будуць прадастаўленыя неабходныя дакумэнты, зь якіх вынікаюць нашыя разьлікі.

Для тых асобаў, хто мае магчымасьць весьці значную камэрцыйную справу, можам прапанаваць на базе «Гарыславы» будаўніцтва па суседству з Комплексам Гандлёвага цэнтра, што будзе выгодна для ўкладальніка сродкаў.

Спадзяёмся, што нашыя прапановы не застануцца бяз увагі, бо яны акрамя нацыянальна-патрыятычнага аспэкту, маюць пад сабой важкія аргумэнты на карысьць здаровага прадпрымальніцтва.

З павагай — заснавальнікі Комплекса «Гарыслава»

**Т. Гаранская, В. Маркавец**

Беларусь, 223036 г. Заслаўе, вул. Луначарскага 35-3, т. 23-29-83. 94-21-77.

**P. S.** Пачатак будаўніцтва Комплекса — студзень 1993 году. Пачатак уводу ўсяго Комплекса ў працоўнае дзеяньне — 1995 год.

*З жыцьця ў Чыкага*

## УГОДКІ ЗАСНАВАНЬНЯ ААН

23-га кастрычніка сёлета ў Чыкага былі адзначаныя 47-я ўгодкі заснаваньня Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Урачыстасьць адбылася пад патранатам губэрнатара штату Джыма Эдгара і Ілінойскага Дэпартаманту Цэнтральнага Кіравецтва. На сьценах залі штатавага будынку, у якой адбывалася ўрачыстасьць, былі вывешаныя нацыянальныя сьцягі 55 этнічных групаў, у тым ліку й беларускай, што брала ўдзел у імпрэзе.

З прывітаньнямі на ўрачыстасьці выступілі анонсэрка тэлевізійнага Другога каналу і прадстаўнікі ілінойскага аддзелу Арганізацыі Аб'еднаных Народаў, а таксама жонка віцэ-губэрнатара, Кэты Кустра.

На сцэну былі пакліканыя дзеці ў нацыянальных строях — усіх больш за сто, — сярод якіх былі і дзьве беларускія дзяўчынкі. Дзеці павесілі



*Беларускія дзяўчаткі на ўгодках заснаваньня ААН.*

сьцяжкі прадстаўленых імі краінаў на «Плянэце Дружбы Аб'еднаных Народаў» (у альфабэтным парадку). Дзіцячы хор выканаў колькі песьняў у розных мовах. Адбыўся супольны пачастунак міжнародным печывам, сярод якога было й беларускае. Напярэдадні стала з пачастункамі, стаялі сьцяжкі этнічных групаў-удзельніцаў імпрэзы.

Дзякуючы крапатлівым стараньням сп-ні Веры Рамук удалося зарганізаваць наш удзел у гэтай урачыстасьці. Сп-ня Ліда Каралюк-Моляро прывяла сваю дачку Карнэлю і пляменьніцу Рэгіну Анджэлешы. Сп-ня Тэрэса Тарасевіч напякла круцёлак, а сп-ня Гэлена Сысой — хрустоў, што прыйшліся ўсім да смаку, бо хутка ня стала іх на стале.

Усім нашым удзельнікам — шчырая падзяка.

На імпрэзе мы сустрэліся з паэтэсай Раісай Баравіковай зь Менску і ейным амэрыканскім дзядзькам ды іншымі чатырма ягонымі крэўнымі зь Беларусі.

**Др. Вітаўт Рамук**

## СУСТРЭЧА З ПАЭТЭСАЙ РАІСАЙ БАРАВІКОВАЙ

31 кастрычніка паэтэса Раіса Баравікова наведала сп-тва Рамукоў, што дало нагоду аўтару гэтых радкоў узяць у яе інтэрв'ю для беларускай радыёпраграмы «Нёман». Увечары мы наведалі сп-тва Беленісаў і сп-ню Ірэну Пануцэвіч, дзе паэтэса мела нагоду пабачыць прыгожыя вышыўкі й цудоўна аформленыя беларускімі народнымі вузорамі калядныя аранамэнты ведамай нашай мастачкі Людвікі Беленіс. Ня мінула паэтка і нагоды пабываць на вечарыне, ладжанай у залі беларускай каталіцкай царквы Хрыста Збаўцы з нагоды амэрыканскага традыцыйнага абраду Галоўін.

На наступны дзень у нядзелю, у тэйжа залі адбылася сустрэча з госьцяй, якую прадсатавіла аўдыторыі сп-ня Вера Рамук. Паэтка падзялілася сваімі ўражаньнямі ад Амэрыкі, сказала, што яна была прыемна ўражана, калі даведалася, што беларускі сьцяг вывешваецца ў Чыкага перад гарадзкой управай гораду ад 1967 году кожны год у дзень 25 сакавіка, а ў Беларусі, сказала яна, гэта робіцца толькі пару гадоў. У кароткіх словах Раіса Баравікова расказала пра сытуацыю ў Беларусі, адраджэнскі рух і цяжкасьці на ягоным шляху, творчасьць пісьменьнікаў, матар'яльную сытуацыю і г.д. Адказала на розныя пытаньні, а далей распавяла аб сваім жыцьці-бацьці, сваёй творчасьці, прачытала з пачуцьцём свае першы са зборніка «Пад небам першага спатканьня». Паэтка паведаміла, что напісала драматычную паэму «Барбара Радзівіл». Драма будзе пастаўленая ў тэатры ў Менску.

Двугадзінная сустрэча закончылася адсьпяваньнем паэтэсе «Сто гадоў» і «Люблю наш край».

**Др. Вітаўт Рамук**

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## 20-ГОДЗЬДЗЕ ЦАРКВЫ

У нядзелю 8-га лістапада прыход Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле ў Нью-Ёрку адзначыў 20-годзьдзе першае багаслужбы ў сваёй царкве, што знаходзіцца на 104-29 Атлянтык Авэню. На ўрачыстасьць зьехалася шмат народу, прыхаджанаў і гасьцей. Сьв. Літургію й малебен адслужыў а. Грэгоры з удзелам бр. Майкэла. Хорам кіраваў сп. С. Жамойда. У пропаведзі а. Грэгоры асьветліў адзін з аспэктаў нашай веры — любоў, што робіць чалавека вартасным як у рэлігійным разуменьні, гэтак і ў грамадзкім жыцьці. Малебен а. Грэгоры закончыў выгаласам «Многая лета» жывым і «Вечная памяць» адыйшоўшым будаўнікам царквы.

На супольным абедзе старшыня царкоўнай управы сп. К. Мерляк напомніў гісторыю пабудовы царквы: наважанасьць і ахвярнасьць як царкоўнай управы, гэтак і вернікаў, іхнае глыбокае рэлігійнае пачуцьцё й беларускі патрыятызм. З малітвамі і працаю, сказаў прамоўца, мы дажылі (праўда, ня ўсе) да часу незалежнай Беларусі, хоць яшчэ трэба шмат працаваць, каб пра незалежнасьць можна было гаварыць у поўным сэньсе гэтага слова, але паявіўся ўжо дзень на даляглядзе. Нас цешыць, што мы на эміграцыі сваю місію выканалі, што незалежная Беларусь пяройме ад нас той набытак, які мы набывалі вераю і працаю, ахвярнасьцю і добрым намерам для будучае Беларусі, закончыў сп. Мерляк сваю прамову, запрапанаваўшы тост за памысьнасьць 20-гадовага прыходу.

На сьвяткаваньні былі: пасол Беларусі пры ААН сп. Генадзь Бураўкін і яго спадарыня Юля, прадстаўнікі Беларускага Кангрэсавага Камітэту, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ды іншыя госьці. У прывітальным слове сп. Бураўкін выказаў задаваленьне быць між сваіх землякоў, у сваёй беларускай царкве, ды пажадаў посьпехаў і бліжэйшых кантактаў з Бацькаўшчынай. Віталі сход таксама прадстаўнікі з Саўт-Рывэру: спсп. М. Сенька і В. Цярпіцкі.

Быў добры беларускі абед і добра прайшоў. Была разыграная лятарэя. Сп. Мерляк дзякаваў усім прысутным, дзякаваў жанчынам за прыгатаваньне абеду.

**Васіль Шчэцька**



*Сёлетнюю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ўпрыгожваў стэнд сп-ні Юлі Андрусышынай (на здымку) зь ейнымі мастацкімі вышыванымі сувэнірамі.*

*З жыцьця ў Сыднэі*

## ПЕРШЫЯ ЎГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Беларусы Сыднэю й ваколіц у нядзелю 23 жніўня ўрачыста адзначылі першыя ўгодкі канстытуцыйнага пацьверджаньня незалежнасьці Рэспублікі Беларусь. Пачалося сьвяткаваньне ў Гомэбушскай праваслаўнай царкве, дзе а. Ігар Хлябіч адслужыў літургію й малебен за беларускі народ па-беларуску, а таксама высьвяціў беларускі сьцяг і дзьве цудоўныя іконы сьв. Еўфрасіньні Полацкай, напісаныя маладой мастачкай зь беластоцкага краю



*Старшыня Беларускага клюбу Міхась Лужынскі прамаўляе да дзяцей.*

Нэляй Багушэўскай. Адна ікона застанецца ў царкве, а другая была перададзена Беларускаму клюбу. У царкве і ў клюбе прысутнічаў першы прадстаўнік беларускага ўраду сп. Ігар Руднік з жонкай Інай. Наш дыплямат служыць дараднікам пры расейскім пасольстве ў Канбэры па справах дыпляматычнай маёмасьці ў Аўстраліі.

У Беларускім доме старшыня клюбу Міхась Лужыскі адкрыў сьвяткаваньне ўступным словам, параўноўваючы два працэсы адраджэньня Беларусі: часоў Рады БНР і цяперашні. Наступна сп. Руднік расказаў аўдыторыі пра эканамічны й палітычны стан на Бацькаўшчыне. Прамоўца падкрэсьліў вялізарнае прапагандавае значэньне дасягненьняў беларускіх алімпійцаў у Барсэлёне. Вельмі прыемна было слухаць чысьценькую мяккую беларускую мову, якою карыстаюцца сп-тва Руднікі.

Наш старэй шы паэт сп. Янка Макарэвіч прадэклямаваў свае два патрыятычныя вершы. Пасьля некалькіх прывітаньняў афіцыйная частка скончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

Адбыўся супольны абед.

## ДЗЕЦІ ЗЬ БЕЛАРУСІ

30 верасьня наш клюб гасьціў дзетак з чарнобыльскай зоны. Прыехалі дзеці (у веку 7-16 год) на запросіны арганізацыі «Эўразія» і закватараваліся ў маляўнічай горнай мясцовасьці Курадджонг, што 670 км ад Сыднэю. Апекаваліся імі розныя дабрачынныя арганізацыі. Дзетак было 49, пераважна з Бабруйску, некалькі з Магілева, пару з Гомеля і адна дзяўчынка зь Менску. Зь імі былі чатыры праваднікі. Дзеці засумавалі па наскай ежы і дзеля гэтага іх прывезьлі ў Беларускі клюб, дзе на мэню былі: кіслая капуста, свойскія каўбаскі, катлеты, агуркі, гарачая бульба, селядцы ды шмат-шмат іншага.

Пасьля абеду нашыя госьці атрымалі падарункі (кожнаму 20 даляраў), а таксама шакалад, жвачку й г.д. Зрабілі супольны здымак, а тады павялі гасьцей па закупы. Гэта было рэдкае відовішча. Ня прывыкшыя да такога выбару тавараў, дзеці хапаліся за ўсё, так што тым, хто павёў іх у крамы, давялося далажыць грошай,каб ушчасьлівіць малых.

За падрыхтаваньне абеду належыцца падзяка сп-ням: Валі Пляхоцкай, Валі Антух, Валі Вітэцкай, Олі Бакуновіч, Ані Ціхан, Вандзе Марчэнка і новапрыбылай гаспадыньцы Алене Рыжэнка. На разьвітаньне як гасьцём, гэтак і гаспадаром спатрэбіліся хусьцінкі...

Усе мы задаволеныя з сустрэчы з будучыняй Беларусі, але ёсьць і заўвага. Пэўнае адно, што ня ўсе прыежджыя дзеці хворыя. А з размовы зь некаторымі выявілася, што яны ўжо пабывалі ў Скандынавіі і Нямеччыне. Выглядае, што пастанова, хто паедзе за мяжу, прымаецца тымі, хто бліжэй да ўлады.

**Міхась Лужынскі**

## ВОДГУК ПРА ВЫСТАЎКУ МЕНСКІХ МАСТАКОЎ У ПЭНСЫЛЬВАНІІ

Газэта The Philadelphia Inquirer (22/11) зьмясьціла артыкул з дадатнай ацэнкай твораў 13 менскіх мастакоў, паказаных на выстаўцы ў галерэі Віляноваўскага Ўнівэрсытэту (гл. «Б-с» № 395).

«Шмат якія з выстаўленых твораў, — піша крытык Вікторыя Донага, — выклікаюць пачуцьцё радасьці, іншыя адлюстроўваюць мэлянхолію ўспамінаў, смутак ростані, адзіноцтва, але рэдка — пакуты або трагедыю».

Пры гэтай нагодзе Донага інфармуе чытача пра чарнобыльскую трагедыю на Беларусі, дзе «ад часу ядзернае катастрофы 1986 году больш за 30 працэнтаў маладых жыхароў займелі рака шчытавіднае залозы».

Даўшы кароткія характарыстыкі творам мастакоў і мастачак-удзельнікаў выстаўкі — Леаніда Рыжкоўскага, Мікалая Ісаёнка, ягонае жонкі Марыі, Зоі Літвінавай, Сьвятланы Катковай, Алы Масіенка, Леаніда Мельніка, Івана Максімюка, Вольгі Грыдзінай, Валянціны Крывашэевай, Зоі Луцэвіч, Вадзіма Ўдавенкі і Сяргея Крыштаповіча — крытык Донага піша:

«Дыяпазон выстаўкі шырокі сягае ад бязьвіннага і шчырага імпрэсіянізму да рэзкіх абвінавачаньняў, што заклікаюць нас да дзеяньня, калі запачаткаваная ў грамадзтве хвароба пашыраецца на ўсю прыроду ў глябальным маштабе. Ніводзін з гэтых мастакоў не карыстаецца гладкапісам (glossy style). І выстаўка служыць выдатным уступам да творчасьці менскіх мастакоў, што знаходзяцца цяпер на раздарожжы, бо эпахіяльныя палітычныя падзеі апошняга часу раптам адкрылі новыя магчымасьці перад мастакамі, якія прывыклі былі працаваць пад цяжарам традыцыі».

Артыкул Вікторыі Донага ілюстраваны фатаздымкам алейнага малюнку Сьвятланы Катковай «Веснавы дождж».

Карэспандэнтка, на жаль, не патурбавалася разабрацца ў англамоўным уступе да каталёгу выстаўкі, дзе коротка пададзеная гісторыя Беларусі і сказана пра цяперашні дзяржаўны сувэрэнітэт рэспублікі. У супярэчнасьць факту нацыянальна-дзяржаўнай, апрычнасьці Беларусі аўтарка карэспадэнцыі (ці рэдакцыя газэты?) у загалоўку артыкулу назвала беларускіх мастакоў «расейцамі». Як бачым, мала разьбірацца ў мастацтве, трэба ведаць таксама некаторыя элемэнтарныя факты і з палітычнай рэчаіснасьці ўва Ўсходняй Эўропе.

**Я.З.**

## ПЕРАВЫБАРЧЫ СХОД КЛЮБУ Ў СЫДНЭІ

13-га верасьня ў Беларускім Культурна-Грамадзкім Клюбе адбыўся агульны сход, які адобрыў працу ўступаючай управы ды абраў на старшыню, ужо дзесяты раз, Міхася Лужынскага. У ўправу ўвайшлі: сп-ня О. Тумашэўская і спсп. М. Антух, А. Бакуновіч, М. Бакуновіч, Я. Гавенчык, М. Зуй, В. Марчэнка, В. Пляхоцкі, К. Сіткоўскі, Б. Ст'юарт і М. Ціхан. У рэвізійную камісію былі выбраныя: спсп. С. Нарушэвіч, М. Сазановіч і Я. Шкода.

**Ёсьць адна пацяшальная навіна: што да нас у Сыднэй за мінулы год прыехалі чатыры маладыя беларускія сем'і. Зь іх у клюб уступілі тры асобы. Спадзяёмся, што ў хуткай будучыні сюды прыплыве яшчэ новая кроў.**

**Пасьля заканчэньня справаў частаваліся смачным абедам, за які належыцца падзяка сп-ням: Олі Тумашэўскай, Вандзе Марчэнка, Зіне Ст'юарт, Мані Супрунчык, Марце Юхневіч, Олі Бакуновіч ды ўсім, хто ім памагаў.**

**М.Л.**

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

## ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ЧАРНОБЫЛЬСКУЮ ДАПАМОГУ

У нядзелю 22 лістапада ў залі царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку адбыліся г. зв. васеньнія бліны — традыцыйны ўжо ў парафіі абед, які быў ня толькі прыемным, але й карысным. Пасьля ўрачыстае багаслужбы, адпраўленай а. Андрэем, і пасьля смачных бліноў сп. Васіль Русак адчыніў фармальную частку праграмы, прысьвечанай чарнобыльскай тэме.

З кароткім словам зьвярнуўся да прысутных рэдактар «Беларуса» др. Янка Запруднік, заклікаўшы падтрымваць фінансава газэту, якая шмат месца прысьвячае справе дапамогі ахвярам чарнобыльскай бяды ў Беларусі.

Сп. Аляксандар Сільвановіч расказаў пра сваё падарожжа ў Беларусь, куды ён і жонка Ніна езьдзілі нядаўна як назіральнікі й працаўнікі размеркаваньня чарнобыльскае дапамогі (гл. у папярэднім нумары «Б-са»: «Дапамога ахвярам Чарнобыля»). Сп. Сільвановіч нагадаў, што арганізаваны пры БАПЦ Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі паслаў у Беларусь праз амэрыканскую дабрачынную арганізацыю Сітыгоўп, якую ўзначальвае пастар Пол Мор, мэдыкамэнтаў і мэдычных прыладаў на агульную суму каля двух з палавінаю мільёнаў даляраў. Дапамога прыбыла своечасова на месца і была дастаўленая ў надзейны склад, дзе далейшым разьмеркаваньнем яе зоймуцца супрацоўнікі Сітыгоўп. Сп-тва Сільвановічы былі гасьцінна сустрэтыя ў Менску прадстаўнікамі мясцовых уладаў і Беларускае Праваслаўнае Царквы. Адбылася сустрэча зь Мітрапалітам БПЦ Філарэтам. Уладыка Філарэт пасьля гутаркі зь ім сп. Сільвановіча дапамог у фармальнасьцях рэгістрацыі Сітыгоўп у Менску, што значна аблегчыць цяпер справу далейшае дапамогі з Амэрыкі беларускім чарнобыльцам.

На працягу тыдня часу ў Беларусі сп-тва Сільвановічы змаглі коратка наведаць некаторыя свае родныя мясьціны, а таксама пабываць у менскіх шпіталёх і клініках, дзе лечацца хворыя ад чарнобыльскай радыяцыі і лік якіх бязупынна расьце. Менскія ўлады, каб падкрэсьліць сваё дацэньваньне атрыманае дапамогі, арганізавалі для замежных гасьцей прыняцьце, сустрэчы з мастацкімі калектывамі, дзіцячымі і прафэсіянальнымі, наведаньне тэатру опэры й балету. Частку свайго побыту сп. Сільвановіч задакумэнтаваў на відэайстужку, якую зьцікавасьцяй паглядзелі ягоныя ўдзячныя слухачы.

Зачыняючы інфармацыйны сход, сп. Васіль Русак адзначыў, што сп-тва Аляксандар і Ніна Сільвановіч бліскуча ваканалі сваю місію.

## ВЫЯСЬНЕНЬНЕ-ПАПРАЎКА

У апошнім нумары «Беларуса» пад здымакам групы асобаў у Лёндане ў Канадзе было памылкова сказана, што сп. Фрэд Кокс — «кіраўнік Канадзкага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі». На самой рэчы сп. Кокс у часе, калі рабіўся здымак, быў старшынём Лёнданскага аддзелу гэтага фонду.

# СЬВ. ПАМ. ІГАР ШЧОРС

**(1918 — 12.X.1992)**

Менск у часе нямецкай акупацыі. Восень 1941 году. Першая нелегальная нарада беларускага актыву. У ліку ўдзельнікаў малады працаўнік гарадзкой управы Ігар Шчорс. З таго часу нашае знаёмства й супрацоўніцтва.

Сьв. пам. Ігар працаваў на розных становішчах у гарадзкой управе, дзе вымагалася веданьне нямецкай мовы й беларускае разуменьне справы.

З нашага супрацоўніцтва ў Менску хачу ўспомніць тры выпадкі дапамогі Ігара гэбрэям пры здабываньні так званых арыйскіх папераў ды вывазы зь Менску гэбрэйскай дзетвары абозамі «Самапомачы». Прозьвішчаў не называю, бо яшчэ не пара.

Нейкі час Ігар працаваў у аддзеле выдачы дакумэнтаў гарадзкой управы. Жонка аднаго зь беларускіх журналістых, гэбрэйка, баялася выходзіць з хаты, каб не забралі ў гета. Сябры паралі зьвярнуцца да Ігара па параду. Ігар папрасіў ейнага мужа прыйсьці з двума сьветкамі бяз жонкі. У канцылярыі гутарка ішла на розныя актуальныя тэмы, аб «арыйскіх паперах» ніхто і не ўспамінаў. Назаўтра жанчына атрымала патрэбныя дакумэнты і пасьля нейкага часу сям'я выехала зь Менску.

Другі выпадак, у якім прыйшлося быць сьветкам. Праф. Іваноўскі, старшыня гарадзкой управы, прыслаў у Менскі музэй (у якім я тады працаваў загадчыкам) на працу перакладчыцу-гэбрэйку, жонку загадчыка электраэнэргіяй гораду (які, дарэчы, таксама быў гэбрэй зь Вільні), каб, папрацаваўшы ў Менску вымаганы нямецкімі ўладамі час, атрымаць дакумэнты сталай жыхаркі гораду. Гэтую справу таксама аформіў Ігар. Сям'я гэтых гэбрэяў была добра замаскаваная, часта разам зь Ігарам мы бывалі ў іх у гасьцях.

І трэці падобны выпадак быў з маладым, здольным гэбрэем, які, атрымаўшы дакумэнты, працаваў у аддзеле інфармацыі нямецкага ведамства.

Беларуская Народная Самапомач займалася ня толькі забясьпечваньнем Менску прадуктамі. Абозы акруговых і раённых аддзелаў «Самапомачы» вярталіся зь Менску пераважна наладаваныя дзетварой з гарадзкіх прытулкаў, якія папаўняліся дзяцьмі з гета. І ўзноў Ігар афармляў гэтыя абозы належнымі дакумэнтамі, якія дазвалялі свабодна пераехаць нямецкія вартавыя заставы пры выезьдзе з гораду.

Сьв. пам. Ігар Шчорс быў вельмі сьціплым чалавекам. Людзі з падобнымі заслугамі пры ратаваньні гэбрэяў садзяць дрэўцы ў ізраільскіх спэцыяльных садах.

Няхай гэты мой кароткі ўспамін будзе вянком на магілу сьціплага й багатага духам чалавека.

**А. Шукелайць**

**Леанід Пранчак**

## ВЕЧНАЯ РАНА

(Памяці Ігара Шчорса)

*Страта роднай душы — больш, чым страта.*
*Кожны з нас на зямлі толькі госьць.*
*Смутку вострай стралою працяты*
*Маё сэрца і думкі — наскрозь…*

*На радзіме — Пакровы і межань.*
*Сьцеле шэрань бялюткі абрус…*
*Хай прысьніцца Вам Нёман і Сьвержань.*
*І сівая, як лунь, — Беларусь…*

*Покуль з восеньскіх дрэў ападае*
*Залатая самота лістоў, —*
*Сірацее Айчына… Губляе*
*Самых верных і шчырых сыноў.*

*Хоць па іх Беларусь не галосіць, —*
*Што паробіш — такая юдоль —*
*Золкі вецер па сьвеце разносіць*
*Беларускія душы і боль.*

*І на самым краі акіяна,*
*Дзе сьвітаньне ружовіцца ледзь, —*
*Нам Айчына — як вечная рана —*
*Будзе ў сэрцах нясьцерпна балець.*

*Вось і ўсё. Нам ужо ня сустрэцца.*
*Сьвет вялікі здаецца пустым…*
*Ваша вольнае добрае сэрца*
*Будзе біцца у сэрцы маім…*

*У далёкім расстаньні і скрусе,*
*Перасіліўшы гвалт і прымус —*
*Вы свой лёс аддалі Беларусі,*
*Каб была,*
*Каб жыла Беларусь!*

*На радзіме — Пакровы і межань.*
*Сьцеле шэрань бялюткі абрус.*
*Хай прысьніцца Вам Нёман і Сьвержань.*
*І сівая, як лунь, Беларусь…*

14 кастрычніка 1992 года
Саўт-Рывэр

*З жыцьця ўАўстраліі*

## Б.А. ў З.А. ЛЕГАЛІЗАВАНАЕ

Арганізацыйнае жыцьцё Беларусаў Заходняй Аўстраліі было запачаткавана 6.І.1951 году. Некаторыя падавалі дату 6.І.1952, але гэта не адпавядае праўдзе. Дзеля нашай тут расьцярушанасьці й адсутнасьці лучнасьці, у ініцыятыўнай групе брала ўдзел ня шмат суродзічаў. Зборка адбылася ў памешканьні сп. М. Раецкага на 49 Лефрой Роўд у Кэлмскоце. Сярод тых, хто прыбыў на зборку, былі: Вацлаў Яфімаў, Мікола Лейко, Ф. Міхновіч і М. Раецкі. Яны і ўвайшлі ўва ўправу створанай арганізацыі пад назовам Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў (ЗБВ), за старшыню якое быў абраны Міхась Раецкі, а сакратаром-скарбнікам Мікола Лейко. **У прынятай праграме працы было: вышукваньне суродзічаў, наладжваньне вонкавых сувязяў і адзначаньне нацыянальных сьвятаў.** Праца арганізацыі набірала шырыні і моцы, наша рэлігійнае жыцьцё не асталося бяз увагі таксама. Аднак, ня гледзячы на актыўнасьць сяброў і ўправы ЗБВ, справа легалізацыі арганізацыі чамусьці адкладалася на пазьней. І толькі дзякуючы прыходу маладога пакаленьня на кіруючыя становішчы перайменаванага ЗБВ у Беларускае Аб'яднаньне ў Заходняй Аўстраліі, гэтая справа стала неабходнасьцю. Вырашэньне яе было дstation даручана намесьніку старшыні ўправы сп. Міхасю Ёлабу.

**Амаль два месяцы спатрэбілася на палагоджаньне гэтай праблемы, 16-га верасьня 1992 году наша арганізацыя атрымала пасьветчаньне легалізацыі, Плённай працы, дарагая моладзь! 29.IX.1992 г.**

**Р.М.**



# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

*СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ*

*Азарка Марыя, Янка й Ірэна*
*Азарка Нона, Юрка й Хрыстафор*
*Акула Кастусь*
*Акуліч Лена і Адам зь сям'ёй*
*Андрусышын Юля, Павал, Юрка й Данчык*
*а. Андрэюк Васіль, матушка Вольга і дзеці Эля, Таіса й Даніла*
*Арцюх Лёля й Язэп*
*Балкоўская Зофія*
*Бартуль Вера, Франціш зь сям'ёй*
*Брылеўскія Лянгіна й Уладзімер*
*Бяленіс Людвіка й Антон*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Літвіна й Сяргей*
*Даніловіч Аляксандра й Браніслаў*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*
*Дубяга Мальвіна, Генадзь, Таіса і Генадзь малодшы*
*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Жук-Грышкевіч Раіса*
*Заморская Вера, Таня й Ніна*
*Запруднік Янка й Вера*
*Кажан Люба, Віталь, Маргарэта й Юля зь сем'ямі*
*Кажура Марыя зь дзецьмі і ўнукамі*
*Калоша Кастусь*
*Кананчук Тацьцяна*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Карніловіч Сяргей*
*Каханоўская Іна*
*Каханоўская Яніна*
*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка зь сям'ёй*





*Кудасава Надзя*
*Кушаль Натальля*
*Лашук Аляксандар*
*Літвіненка Янка*
*Лукашэвіч Оля, Віктар, Коля і Стывэн*
*Махнач Ванда й Міхась*
*Мельяновіч Далорэс і Васіль*
*Мерляк Ганна й Кастусь*
*а. Надсон Аляксандар*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Норык Кінуся Лёня й дзеці*
*Орса-Рамана Алла й Франціш, Павал і Коля*
*Патапенка Марыя*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Прускі Вера й Мікола зь сям'ёй*
*Рамук Вера й Вітаўт зь сям'ёй*
*Русак Галіна й Васіль зь сям'ёй*
*Сапежынская Алена, Якуб, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Сільвановіч Ніна, Аляксандар і Андрэй*
*Стагановіч Марыя й Лявон*
*Станкевіч Раіса*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Сурвіла Івонка й Янка зь сям'ёй*
*Сьліўка Ўладзімер*
*Сяргіевіч Марыя й Васіль*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Ханенка Ліда й Янка*
*Харавец Галя і Ўладзімер*
*Шукелайць Антон*
*Шуст Галена й Мікола*
*Чарнэцкая Аляксандра*
*Юхнавец Іра, Янка, Канстантын*
*Яраховіч Оля й Астат*








































## ЯК Я Ў МЕНСКУ КУПЛЯЎ «АМАРЭТА»

Пражыўшы на Захадзе 13 гадоў, я крыху забыўся пра бытавыя праблемы Менску, куды мне давялося паехаць сёлета ў жнівені. Пайшлі са знаёмым прайсьціся па горадзе. Зайшоўшы ў адным гастраноме ў аддзел «Віно, сокі», пытаюся ў прадаўшчыцы:

— Скажэце, колькі каштуе лікёр «Амарэта».

Яна доўга глядзіць на мяне, пасьля да другое дзяўчыны:

— Галя, тут вось пытаюцца, колькі «Амарэта».

Тая стаіць убаку ад аддзелу:

— У мяне язык ужо забалеў адказваць. — Чаго ён пытаецца, усёроўна-ж ня купя.

—Па-першае, — зварачаюся я непасрэдна да Галі, — вы маглі-б цану напісаць і паставіць ля лікёру, а па-другое, я хацеў-бы купіць.

Галя адвярнулася сьпіной і размаўляе з прадаўшчыцай аддзелу «Торты».

— Урэшце рэштаў, тут можа хтонебудзь сказаць, колькі каштуе «Амарэта»?! — пачынае траціць супакой мой спадарожнік-мянчанін Андрэй Фёдаравіч.

Дзяўчына, якая пыталася ў Галі, крычыць у другі канец магазыну да касіршы:

— Наташа, колькі сёньня «Амарэта»?

— Хай стане ў касу, — адкрыкваецца Наташа, — тады і даведаецца.

Мы сталі ў касу. Падыходзіць чарга.

— Я хацеў-бы купіць тры бутэлкі «Амарэта».

Наташа вельмі ўважліва глядзіць на нас. Пасьля:

— Галя, у цябе ёсьць тры «Амэрты»?

Галя:

— Зараз пагляджу.

Наташа і мы чакаем, за намі чакае чарга.

— Ёсьць! — далятае да нас і Наташы Галін голас.

— 1325 рублёў, — кажа Наташа.

Я даю грошы. Тая доўга пачынае выстукваць на лічыльніку квіткі. Выстуквае і лічыць уголас:

— Раз, два, пяць, дзесяць.

Тут чалавек з чаргі:

— Девушка, нельзя ли побыстрее?

Наташа зьбілася лічыць. Пачынае лічыць спачатку. Працягвае нам на паўмэтра рулон паперы.

Падарозе да Галінага аддзелу я даведваюся, чаму аж гэтулькі квіткоў. Аказваецца, максымальная сума, якую можа выбіць каса — толькі сто рублёў.

Аддаем паперкі Галі. Цяпер пачынае лічыць яна.

— Толькі-б яна не памылілася, — кажа мне Андрэй Фёдаравіч, інакш трэба будзе ізноў стаяць у касу.

Галя лічыла і зіркала на нас. Налічыўшы тысячу рублёў, яна адкінула адну костку на драўляным лічыльніку, якi ляжаў у яе на прылаўку.

Падлічыўшы суму квіткоў, Галя падсумавала суму за тры бутэлькі «Амарэта». Усё зыйшлося, Галя задаволеная.

— А навошта вам тры пляшкі? — пытаецца яна.

— Адну мы вып'ем зараз тут, — на поўным сур'ёзе кажа Андрэй Фёдаравіч, — другую падарозе дахаты, а трэцюю пакінем на пахмельле.

Галя ў разгубленасьці.

— А мяшэчак у вас можна для «Амарэта», — пытаюся я ў яе.

— Можна, на другім канцы магазыну, спачатку ў касу, а яны там скажуць куды пасьля.

— Бачыш, як у нас весела з сэрвісам, — кажа Андрэй Фёдаровіч, а ты кажаш, трэба нам выходзіць у людзі, на Захад ісьці. Так, трэба выходзіць, толькі з чым? Тут ня толькі адраджаць трэба, тут трэба вучыць людзей самых звычайных рэчаў і ў першую чаргу культуры, тэй самай культуры, пра якую сёньня ніхто ня рупіцца.

**Алесь Васілеўскі**





**BELARUSIAN REVIEW**
**Vol. 4, No. 3, Fall 1992. 28 pp.**

Толькі што выйшаў з друку ёмісты зьместам чарговы нумар «Беларускага Агляду». У ім прачытаеце пра: справу рэфэрэндуму на Беларусі; пра амэрыканскага пасла ў Менску сп. Дэвіда Сўорца; праблему з заганнай паштовай службай Беларусі. Вялікі артыкул Джоў Прайса прысьвечаны пытаньню канстытуцыі Рэспублікі. Багатыя разьдзелы: «Думкі й назіраньні», «Форум Беларусі», «Фрагмэнты зь беларускай гісторыі», «Чарнобыльская спадчына», «Беларусы ў замежжы», «Падзеі» ды іншыя.

«Беларускі Агляд» набывае папулярнасьці ў Беларусі. Нядаўна ў рэдакцыю «БА» прыйшоў ліст ад студэнткі менскага Інстытуту Замежных Моў Алены Жукоўскай, якая піша: «Зь вялікім задаваленьнем прыдбала ў газэтным кіёску ваша выданьне. Яно вельмі для мяне карыснае таму, што дапамагае пры вывучэньні ангельскай мовы. Да таго-ж, вельмі цікава і карысна чытаць і практыкавацца па-ангельску аб Беларусі. Да нас зараз замежная прэса не даходзіць, бо ў дзяржавы няма валюты, а зь «Беларускага Агляду» можна даведацца, што пішуць аб нашай рэспубліцы, напрыклад, амэрыканскія газэты».

Падпісная плата на «БА» — 20 дал. на год плюс 20 дал. за перасылку паветранай поштай за акіян. Чэк выпісваць на BR і слаць на адрас: BR, P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505, USA.

*Ліст у Рэдакцыю*

## ПАДЗЯКА САЎТРЫВЭРЦАМ

Паважаная Рэдакцыя!

Мне давялося пабыць і пажыць у цудоўным беларускім куточку Амэрыкі. Разам са сваімі калегамі зь Менску (агульны здымак нас памешчаны ў «Беларусе» нр. 394) я браў удзел у канцэртах у гонар 20-е Сустрэчы Беларусаў, а таксама на 110-я ўгодкі Я. Купалы й Я. Коласа ў ААН ды іншых імпрэзах. Ні ў якім іншым кутку Зямлі, хіба што на Бацькаўшчыне, мяне зь сябрамі не сустракалі так гасьцінна й шчыра, як тут, у Саўт-Рывэры. Калі ёсьць такая магчымасьць, дазвольце праз газэту выказаць ад усяго сэрца падзяку спадарам Міхасю Сеньку й Юрку Навумчыку, якія нас запрасілі, сп. Лёву Высоцкаму, у якога я жыў. Мне таксама давялося пасьпяваць з цудоўнымі харыстамі ў праваслаўнай царкве Сьв. Ефрасіньні, ад чаго я атрымаў глыбокае душэўнае задавальненьне, асалоду, спакой, веру і ўпэўненасьць. Немагчыма простымі словамі выказаць усе пачуцьці да прыгожых жанчын Саўт-Рывэру, якія накармілі й апранулі, прынялі, як сына. Нізкі паклон Вам, дарагая Зося Бычкоўская, Ліза Літаровіч, Рэня Касьцюк, Людміла Махнюк, Надзя Кудасава...

Усяго даванаццаць кіламэтраў, а не акіян, празь якія мне заўтра ляцець на Радзіму, аддзяляюць нас, дарагі Валодзя Бычкоўскі. Я абавязкова, наведаўшы ў лістападзе бацькоў у Петрыкаве, убачу й Твайго, Валодзя, роднага дзядзьку Міцю. Вып'ем зь ім гарэлкі, выйдзем на бераг Прыпяці дзе-небудзь пабліжэй да вёсачкі Шэставічы, дзе Ты нарадзіўся. Нам не хапіла гэтых 12-ці кіламэнтраў у верасьні 1989 году, калі Ты наведваў Бацькаўшчыну, алеж лёс, дзякуй Богу, даў нам магчымасьць пазнаёміцца тут, у Саўт-Рывэры. Нізкі паклон Табе, музыканту Валодзю Бычкоўскаму і ўсёй Тваёй радні, за тую цяплыню й радасьць, якою наталіў Ты маё сэрца. Мы-ж палешукі!

А заўтра — у дарогу.

Саўт-Рывэр, 6 лістапада 1992 г.

**Зьміцер Яўтуховіч**

### ЗАПРОСІНЫ

Сястрыцтва парафіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку запрашае Вас на супольную калядну куцьцю, што ладзіцца 6-га студзеня 1993 году. Пачатак багаслужбы а 6-й гадз. ўвечары. Аб Вашым жаданьні ўзяць удзел у супольнай куцьці просім загадзе паведаміць настаяцелю парафіі а. прат. Васілю Андрэюку (тэл.: /908/ 214-9518) або старшыні сястрыцтва парафіі спні Жэні Дубяга (тэл.: /908/ 257-2161).

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА

*Прыслалі ў Рэдакцыю падпіску й калядныя ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Акула К. | 30 |
| К. Акула выдаткаваў на рассылку «Беларуса» | 90 дал. |
| БАЗА ў Каліфорніі (праз сп-ню К. Вініцкую) | 50 |
| Грамыка С. | 25 |
| Грамыка С. (заміж кветак на магілу с.п. І. Шчорса) | 20 |
| Грэбень М. | 20 |
| Жучка Я. (заміж кветак на магілу с.п. П. Кажуры) | 100 |
| Жызьнеўскі Н. | 100 |
| Кажан В. | 30 |
| Кажура М. зь дзецьмі і ўнукамі (у памяць П. Кажуры) | 20 |
| Кансысторыя БАПЦ | 50 |
| Калоша К. | 20 |
| Кананчук Т. | 20 |
| Карніловіч С. | 20 |
| Каханоўская І. | 20 |
| Когэн Н. | 25 |
| Кудасава Н. | 25 |
| Латушкін М. | 20 |
| Лашук А. | 20 |
| Лукашэвіч О. | 20 |
| Лук'янчык А. | 200 |
| Махнач В. | 50 |
| Мерляк К. | 120 |
| Найдзюк Ч. | 25 |
| Негода П. | 20 |
| Парафія Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ | 50 |
| Прускі М. у памяць М. Кумэйшы | 30 |
| Рамук В. | 20 |
| Стасевіч К. | 25 |
| Стрэчань А. | 20 |
| Субота А. (заміж вянка на магілу с.п. М. Ткачова) | 50 |
| Сяргіевіч В. | 20 |
| Ханенка Я. | 20 |
| Чарнэцкая А. | 20 |
| Шурак Л. | 30 |
| Шуст М. | 56 |
| Юхнавец Я. | 20 |
| Яраховіч А. | 20 |
| Усяго | 1431 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| А. Субота | дал. 100 |
| Я. Сурвіла | 70 |
| Л. Норык | 60 |
| Каардынацыйны К-т Беларусаў Канады | 50 |
| Н. Гурын | 40 |
| Р.Галяк | 40 |
| Л. Кавалёў | 30 |
| А. Маркевіч | 30 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 20 |
| В. Ярашэвіч | 20 |
| А. Непейн | 20 |
| Л. Стагановіч | 20 |
| М. Каранеўскі | 20 |
| У. Сьліўка | 20 |
| Я. Літвіненка | 20 |
| А. Сільвановіч | 20 |
| Усяго | 605 |

***Просьба да чытачоў і ахвярадаўцаў***

### У СПРАВЕ РАЗЬЛІКУ ЗА ГАЗЭТУ

Асобы, што дастаюць газэту ад нашага прадстаўніка сп. Браніслава Даніловіча, павінны зь ім і разьлічвацца, выпісваючы чэк на ягонае імя і перасылаючы на ягоны адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, NJ 08901

**Адміністрацыя «Беларуса»**